СВАБОДА
№3 сакавік 1992
Кошт 1 рубель
ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990
РЭДАКТАР ІГАР ГЕРМЯНЧУК
ВЫДАВЕЦ ПАВАЛ ЖУК
АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ:
220131, Менск, а/с 417
тэл.: (0172) 34-22-95
факс: (0172) 34-22-95

# Дзень Волі-92

## Віншуем са сьвятам Незалежнасьці!



«Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю».

*Менск, 24 сакавіка 1918 года.*

## Маўчаньне — золата

**16 сакавіка афіцыйна распушчаны брытанскі парлямант. Да дня новых выбараў (9 красавіка) Вэстмінстар зачынены.**

Але 12 сакавіка там здарылася адна адметная падзея. Нарэшце-такі ўзяў слова адзін дэпутат, лорд Мантыгл, які маўчэў у парляманьце 45 гадоў. Тым самым ён пабіў ранейшы рэкорд маўчаньня ў парляманьце. Першае выступленьне лорда ў парляманьце доўжылася ад 18.37 да 18.42, г.зн. 5 хвілін. Тэма выступленьня — недахоп вады для паліву кветак у садох. Лорд пракамэнтаваў падзею шматлікім прадстаўнікам прэсы так: «Увогуле ў мяне няма асаблівых ведаў пра тыя рэчы, пра якія тут увесь час гавораць. Але аб недахопе вады я сёе-тое ведаю». Прэса палічыла, што высакародны лорд зрабіў даволі мудра — усе, хто ахвотна выступае ў парляманьце, маглі б таксама гаварыць толькі аб тым, у чым хоць трохі разьбіраюцца. Журналісты выказалі надзею, што наступнае выступленьне лорда ня прыйдзецца чакаць яшчэ 45 гадоў.

## Ніксан папярэджвае

**Адной з найбольш важных падзеяў у палітычным жыцьці ЗША на мінулым тыдні стаў мэмарандум Ніксана.**

Гэты былы прэзыдэнт перасьцерагае Белы Дом ад ізаляцыянізму і гаворыць аб неабходнасьці пашырыць дапамогу Расеі. Ён лічыць, што неабходна распрацаваць плян падтрымкі дэмакратыі ад Прагі да Уладзівастока. Ніксан падкрэсьліў: «Расейскі дэспатызм можа стаць для сьвету яшчэ больш небясьпечным, чым быў камуністычны таталітарызм».

## Памяці «таварыша»

**На Захадзе лічаць, што са спыненьнем выхаду газэты «Праўда» скончыўся цэлы этап у гісторыі Расеі.**

Але Бі-Бі-Сі ў сваіх камэнтарах на гэты конт адзначыла, што «Праўда» мела сваіх прыхільнікаў нават у Англіі, асабліва ў палітычных аналітыкаў. Іх довады: па-першае, існаваньне моцнай апазыцыйнай газэты важна ў любым стабільным грамадзтве; другое — заходнія дасьледчыкі навучыліся на працягу многіх гадоў чытаць гэтую газэту, як і другія савецкія выданьні, паміж радкоў.

ПРАГНОЗ

# Канец геапалітычнай Балтыі?

**Летува, Латвія, Эстонія здабылі незалежнасьць. Але ці аказаліся палітыкі балтыйскіх краін па-сапраўднаму падрыхтаванымі да таго, што адбылося? Бадай што не, тым больш, што яны, хутчэй за ўсё, разьлічвалі на іншыя ўмовы сваёй незалежнасьці.**

Нагадаем, што размова ўвесь час ішла не пра стварэньне нейкай новай дзяржавы, а пра аднаўленьне акупаваных у 1940 годзе Латвійскай, Летувіскай і Эстонскай рэспублік. У тых, даваенных, краін было асаблівае становішча ў Эўропе: яны здаваліся тонкім буфэрам паміж заходнім сьветам і сталінскім Савецкім Саюзам. Натуральным было жаданьне многіх балтыйскіх палітыкаў захаваць такое становішча сваіх краін і пасьля рэнэсансу незалежнасьці. Але яны папросту няправільна ацэньвалі гістарычны працэс, разглядаючы імкненьне балтыйскіх народаў да дзяржаўнай самастойнасьці як нейкі прыватны выпадак. Падобна, нават тыя, хто непасрэдна «раскалыхваў лодку» ў вактыўным узаемадзеяньні з нацыянальна-дэмакратычнымі рухамі ў другіх рэгіёнах Саюзу, усур'ёз ня верылі ў ягоны распад. Але ўсё ж гэты распад адбыўся, і прыбалтыйскія краіны, якія былі піянэрамі ў многіх працэсах перабудовы, пасьпелі пакінуць карабель толькі ў апошні момант, калі капітанскі масток быў ужо, па сутнасьці, вольны.

Яны вярнуліся ў зьменены сьвет. І рэч нават ня ў тым, што зьнікае традыцыйнае супрацьстаяньне Захаду і Ўсходу, а ў зьяўленьні новых, больш трывалых і надзейных «буфэрных дзяржаваў», здольных ня толькі пасьпяхова выступаць у гэтай ролі, але й дыктаваць свае ўмовы сьвету. Аб гэтых краінах — такіх, як Украіна і Беларусь, — вядома ж, ня марыў ніхто, але ўсё ж такі яны ўзмацняюцца і змушаюць і заходніх палітыкаў зьмяняць маршруты сваіх пералётаў па савецкай прасторы.

А што ж балтыйскія краіны? У адносінах да іх яшчэ адчуваецца нейкая інэрцыйнасьць, зьвязаная са шматгадовай падтрымкай Захадам права Латвіі, Летувы і Эстоніі на дзяржаўную незалежнасьць. Але адбылася цалкам прадказальная ў цяперашніх гістарычных умовах мэтамарфоза: вярнуўшыся на палітычную карту сьвету, прыбалтыйскія дзяржавы зьніклі з геапалітычнага глёбуса. Самі яны яшчэ не зусім выразна адчулі гэта і па-ранейшаму разглядаюць свае праблемы як ключавыя ва ўсесаюзнай сытуацыі Цэнтра ці Расеі, не заўважаючы, здаецца, што нават самыя сур'ёзныя патрабаваньні прыбалтаў (напрыклад, неадкладны вывад войскаў) забываюць і тут, і на Захадзе, калі размова ідзе пра лёс ядзернай зброі, Чарнаморскага флёту або касмадрому «Байканур». Але ж чаго яшчэ хацець ад людзей, фотаздымкі якіх гадамі не сыходзілі зь першых палосаў «Таймс» або «Монд»? Пэўная затарможанасьць разьвіцьця падзеяў у Савецкім Саюзе прывяла да таго, што імёны лідараў маленькіх краінаў — Ландсбэргіса, Гарбунова або Рюйтэля — запомніў увесь сьвет і яны разглядаліся як раўнапраўныя апанэнты кіраўніка ўсемагутнага Саюзу Міхаіла Гарбачова і прэзыдэнта гіганцкай Расеі Барыса Ельцына.

Балтыі патрэбна новая генэрацыя палітыкаў, якім ня будзе вядомая сусьветная слава, якія здаволяцца тым, што нават найвышэйшы пост у сваёй краіне не прынясе ім... і аўтарытэту за яе межамі, якія змогуць выконваць карпатлівую і няўдзячную працу па самастойным аднаўленьні разбуранай эканомікі. І надзеі на Захад выглядаюць цяпер крыху ўтапічнымі, таму што былі яны натуральнымі і разумнымі пакуль існаваў Савецкі Саюз, пакуль краіны Балтыі маглі здавацца нейкім палігонам дабрабыту на пэрыфэрыі гіганцкай жабрацкай дзяржавы.

Прыбалтыка, нават для жыхароў самога Саюзу, зьнікне раней, чым мы можам сабе гэта ўявіць. І тры маленькія краіны, цесна прыціскаючыся адна да другой і ў той жа час імкнучыся адштурхнуцца адна ад другой як мага далей, будуць працягваць свой няпросты гістарычны шлях, на якім ужо ніколі ня зьявяцца натоўпы рэпарцёраў і новыя гарбачовы, бушы і ельцыны. Але, праўда, чужыя танкі, сталіны і гітлеры таксама ўжо ня зьявяцца. Яны самі гэтага хацелі. Проста яшчэ ня звыкліся з гэтым.

*("Независимая газета", Масква.)*

## Часовае вырашэньне

Польскі бок выказвае занепакоенасьць з прычыны таго, што Савецкая Армія зь Нямеччыны й Польшчы выводзіцца ў Калінінградзкую вобласьць. Такім чынам каля самае польскае мяжы стварылася вялікая канцэнтрацыя войскаў, што даволі небясьпечна для РП. Палякі лічаць, што разьмяшчэньне войскаў у Калінінградзкай вобласьці можа быць толькі часовым вырашэньнем пытаньня.

## І нашых там было

Маскоўскія гарадзкія ўлады прынялі рашэньне арганізаваць у непрацоўныя дні 7 і 8 лістапада г.г. сьвяткаваньне 380-й гадавіны вызваленьня Масквы «ад польскіх інтэрвэнтаў» у 1612 годзе.

Пад тэрмінам «польскія» схавана ў расейскай гістарыяграфіі пераважна шляхта Вялікага княства Літоўскага. Далучыўся да гэтай справы й канцлер Леў Сапега. Вайсковыя падзеі пачатку XVII ст. зьяўляюцца яскравым сьведчаньнем супрацьстаяньня дзьвюх краін. Тады, здаралася, мы бралі й Маскву.

## Патрабуецца асобае становішча

Па словах ангельскай Daily Telegraph віцэ-прэзыдэнт Расеі Руцкой патрабуе ўвядзеньня асобага эканамічнага становішча ў Расеі.

## Дзякуй за шчырасьць

Выступаючы ў Маскоўскім інстытуце міжнародных зносінаў на канфэрэнцыі, прысьвечанай новай канцэпцыі зьнешняй палітыкі Расейскай Фэдэрацыі, міністр замежных справаў Расеі Андрэй Козыраў наступным чынам акрэсьліў расейскія інтарэсы ў СНД: «Это и единая армия, и сопряженная экономика, и уникальное культурное пространство, и общий русский язык».

## Як падзяліць сталіцу?

Працэс сувэрэнізацыі пачаўся ў Кабардына-Балкарскай ССР (такое пакуль афіцыйнае найменьне гэтай былой аўтаноміі, якая знаходзіцца ў складзе Расейскай Фэдэрацыі). Калісьці ў выніку «ленинской национальной политики» два розныя каўказскія народы (якія нават не разумеюць мовы адзін аднаго) былі штучна аб'яднаныя. Потым быў генацыд у адносінах да балкарцаў з боку сталінскага рэжыму. На прайшоўшых нядаўна зьездах балкарскага й кабардынскага народаў вырашана ўтварыць адпаведна Рэспубліку Балкарыя й Кабардынскую Рэспубліку. Прэзыдэнт ды іншае кіраўніцтва К-БССР ня супраць гэтага пры ўмове, што падзел адбудзецца паступова, мірна й цывілізавана. Аднак пакуль незразумела, як быць са сталіцай. Адны прапануюць падзяліць Нальчык на дзьве часткі й кожную зь іх зрабіць цэнтрам адпаведнай рэспублікі. Іншыя ж лічаць, што горад можа застацца адначасова сталіцай і Балкарыі і Кабарды. У такім выпадку гэта будзе адзіны прэцэдэнт у сьвеце: дзьве дзяржавы з адной сталіцай.

Адлюстраваньнем палітычных зрухаў у Рэспубліцы стала тое, што прыняты свой дзяржаўны сьцяг, даволі цікавы: узяты былы расейскі (камуністычны) чырвона-сіні штандар зь сярпом ды молатам, на якім зрабілі надпіс на трох мовах: «Кабардына-Балкарская ССР».

## Дзе ў Амэрыцы жыць добра

У ЗША апублікаваны дадзеныя пра сто гарадоў Амэрыкі, у якіх самыя спрыяльныя ўмовы для жыцьця. Улічваліся розныя фактары, у тым ліку экалягічныя і біялягічныя, а таксама ўклад жыцьця людзей і паказчык сярэдняй працягласьці жыцьця. У гэтым сьпісе на 1-м мейсцы г.Ганалулу (сталіца штата Гаваі), на 2-м — Анкорыдж (горад у штаце Аляска), на 88 мейсцы — Нью-Ёрк і на 100-м — Буфала.

Асобна адзначаецца, што ў тых гарадох, дзе працягласьць жыцьця вышэйшая, людзі ядуць многа рыбы, а ў астатніх штатах насельніцтва харчуецца паводле традыцыяў амэрыканскай кухні.

## Пашкадуйце камуністаў

У Варшаве адбыўся міжнародны сэмінар «Дэкамунізацыя і дэмакратызацыя», наладжаны фондам імя Стэфана Баторыя. Аб працэсах дэкамунізацыі ў сваіх краінах распавялі грамадзкія дзеячы Польшчы, Чэха-Славаччыны, Вугоршчыны. Некаторыя зь іх выказваліся супраць усялякіх кампрамісаў з былымі камуністамі, а таксама прапаноўвалі забараніць ім займаць дзяржаўныя пасады.

Як ні дзіўна, супраць выступіў вядомы польскі палітык Яцэк Куронь. Ён лічыць, што гэтым людзям трэба дапамагчы ўвайсьці ў сёньняшняе дэмакратычнае жыцьцё, бо толькі тады адбудзецца сапраўдная дэкамунізацыя. У мінулыя часы, як вядома, Куроня двойчы выключалі з ПАРП, ён быў зацятым дысыдэнтам, пазьней — адным з кіраўнікоў апазыцыйнай арганізацыі КОС-КОР.

## Мала толку ад «Пэпсі-колы»

Сёньняшнія заходнія інвэстыцыі ў польскую эканоміку складаюць 2 млрд. даляраў. Але гэтага, нават улічваючы ўдзел такіх вядомых фірмаў, як «Філіпс», «Пэпсі-кола», «Джэнэрал мотарз», вельмі мала. У гэтым згаджаюцца з палякамі самі заходнія інвэстары.

Найбольш актыўна ўдзельнічаюць у польскай эканоміцы немцы. З палякамі таксама супрацоўнічаюць каля 500 амэрыканскіх, амаль 600 французскіх і брытанскіх фірмаў. Больш ахвотна яны ўкладаюць свае сродкі ў замежны гандаль, тэкстыльную прамысловасьць ды перапрацоўку садавіны і гародніны. Аднак пакуль усяго адна пятая частка інвэстыцый ідзе на вытворчасьць прадукцыі.

## Жарт Назарбаева

Прэзыдэнт Назарбаеў папрасіў прыняць Казахстан у Эўрапейскую эканамічную супольнасьць (ЭЭС), чым вельмі зьдзівіў заходніх палітыкаў. Ягоную просьбу палічылі за жарт, бо, як вядома, паводле статуту ЭЭС, туды прымаюцца толькі эўрапейскія краіны.



Паласа падрыхтавана па паведамленьнях нашых карэспандэнтаў, а таксама па матар'ялах замежнага друку й інфармацыйных агенцтваў

# Што заявіў Шушкевіч газэце Le Monde

**«Беларусь: спакойная незалежнасьць» — пад такім загалоўкам французская газета Le Monde у нумары за 22 лютага апублікавала артыкул свайго спэцыяльнага карэспандэнта, які гутарыў у Менску са Станіславам Шушкевічам. Перадрукоўваем тую частку матар'яла, дзе гаворка ідзе пра найбольш актуальныя рэчы.**

Старшыня Станіслаў Шушкевіч — першы, хто прызнаў, што сёньня яго краіна зьяўляецца незалежнаю толькі *«ў прынцыпе»*. Памяркоўны, заклапочаны тым, каб усё рабілася бяз рэзкіх рухаў і непатрэбнай канфрантацыі, ён цалкам адпавядае таму вобразу, які беларусы любяць ствараць пра саміх сябе, сьцьвярджаючы, што яны — *«самая мірная сярод усіх славянскіх нацыяў»*.

Што датычыць звычайных узброеных сілаў, то Беларусь тут ясна дала зразумець сваю пазыцыю: на яе ўдзел у *«ваб'яднаных сілах Садружнасьці»* разьлічваць ня трэба; калі гэта і магчыма, дык толькі на двухгадовы пераходны перыяд, які дазволіць спакойна ажыцьцявіць патрэбныя зьмены.

Можа, усё было б прасьцей, каб Расея адмовілася ад нерэальнай думкі пра агульнае войска? *«Лёгіка рэчаў сьведчыць*, гаворыць Станіслаў Шушкевіч, *што Расея павінна мець уласнае войска. Цяперашняя сытуацыя ненармальная»*. Дарэчы, ён ужо зьвяртаў на гэта ўвагу Барыса Ельцына: *«Пра якое скарачэньне ўзбраеньняў па той бок Арктыкі вы зможаце весьці гаворку, калі ў вас ня будзе ўласнага войска?»* (Сп. Краўчук таксама рабіў такую ж заўвагу, але зроблена яна была публічна і мела больш зьедлівы тон). Тым ня менш, *«Расеі пакуль не хапае сьмеласьці ступіць гэты крок»*.

Але ж па сутнасьці, каб такое войска, *«агульнае»* для Расеі і некалькіх іншых дзяржаваў, і было створанае, *«для мяне яно ўсё роўна было б войска расейскае. Бо што зьменіцца, калі да 2.300.000 расейцаў дадаць 140.000 казахаў?»* Таму ўжо сёньня галоўнае — весьці наконт гэтага перамовы з Расеяй».

Якая была б у яго рэакцыя, каб Расея прысвоіла сабе ўсю былую савецкую армію, як зрабіла гэта, напрыклад, з пасольствамі? *«Не, гэта немагчыма і недапушчальна. Ува што тады ператварыліся б войскі, разьмешчаныя ў нас? У акупацыйную армію? А вось тыя войскі, якія разьмешчаны па-за межамі — у Нямеччыне, у Польшчы, — калі хочуць, няхай забіраюць. Хоць юрыдычна гэта можа прывесьці да даволі дзіўных сытуацыяў. Напрыклад, у нашым парляманьце ёсьць дэпутаты, выбраныя ад «савецкага» кантынгенту ў Польшчы — такія, як генэрал Віктар Дубынін (сёньняшні начальнік гэтага кантынгенту) Але, нягледзячы на абсурднасьць такога становішча, мы маглі б яго ўладзіць.*

Што ён думае пра расейска-ўкраінскую спрэчку аб чарнаморскім флёце і Крыме? *«Ведаеце, я такога флёта ня ведаю; дый потым, я ня маю права камэнтаваць адносіны паміж Украінай і Расеяй. Мы не прэтэндуем ні на флёт, ні на Крым. Аднак, калі падзел (флёта) адбудзецца, то мы хацелі б, каб пры гэтым улічваўся і наш уклад (у фінансаваньні гэтага флёта)»*.

Не жадаючы *«камэнтаваць»* і высоўвацца наперад, ці ня йдзе сёньня Беларусь сьледам за ўкраінскім урадам? Не зусім, адказвае сп. Шушкевіч, *«у нас вельмі розны гістарычны вопыт»*, дый *«Украіна знаходзіцца ў болей спрыяльных прыродных умовах». «Так, мы ідзем да незалежнасьці, але нават у далёкай пэрспэктыве мы не прадбачым разьдзелу з Расеяй у такой ступені, у якой гэта можа сабе дазволіць Украіна»*. Дый потым. *«калі дэмакратыі ня будзе ў Расеі, яе ня будзе і ў нас»*. А значыць, трэба *«пераканаць расейскае кіраўніцтва, што наш сувэрэнітэт не супярэчыць інтарэсам Расеі»*. Ці ня будзе цяжка гэта зрабіць? ***«Не, зусім не; вы ведаеце, ня ўсе яны** (дзеячы расейскага кіраўніцтва) **сыходзяцца на адной думцы. Але Барыс Мікалаевіч выдатна разумее нашу пазыцыю і ведае, што з нашага боку здрады ня будзе».***

Калі ж рэчы ў гэтым напрамку пойдуць усё-ткі ня так гладка, як гэта бачылася, калі СНД разваліцца, ці ня можа здарыцца так, што Беларусь — як, здаецца, гэта робіць ўжо сёньня Ўкраіна — павернецца да сваіх заходніх суседзяў: Польшчы, Чэха-Славаччыны, Вэнгрыі? *«Гэта вельмі магчыма, але патрабавала б вельмі складаных і цяжкіх пераменаў: 70% нашай прадукцыі ідзе ў Расею ды іншыя былыя савецкія рэспублікі»*. Ці зьбіраецца Беларусь у бліжэйшы час увесьці свае грошы (пакуль тут уведзена толькі купонная сыстэма з мэтаю абараніць свае крамы ад апэтытаў суседзяў)? *«Гэта яшчэ адна рыса, якая розьніць нас з Украінай. Я асабіста зраблю ўсё, каб да гэтага не дайшло»*.

Словам, і тут — асьцярожнасьць, клопат пра тое, каб не прысьпешваць хаду падзей. У тым ліку і ў дачыненьні да ўнутранага палітычнага жыцьця.

Ці ня варта было б даўно ўжо правесьці зьмены ва ўрадзе? *«Вядома, гэтая структура пабудавана паводле старой мадэлі. Гэта гіганцкі мэханізм, пачвара, і прэм'ер-міністр (сп. Кебіч), якога я вельмі паважаю, ня можа яго кантраляваць»*. Але тут жа старшыня дадае, што ні ў якім разе ня мае намеру мяняць свайго прэм'ер-міністра.

Ці ня мог бы ён гэтага зрабіць і, калі ставіць пытаньне вастрэй, ці не адчуваў бы сябе ямчэй, у прыватнасьці — у размовах са сп.Ельцыным і сп.Краўчуком, каб таксама ўдастоіўся гонару быць выбраным прэзыдэнтам? Тут нечакана выяўляецца асноўнае *«адрозьненьне»* сп. Шушкевіча ад астатніх: *«Аб'ём паўнамоцтваў, якімі я валодаю, цалкам мяне задавальняюць, калі б у мяне іх было б болей, я рабіў бы болей памылак...»* Ці не азначае гэта, што ён не найлепшай думкі пра падкрэсьлена прэзыдэнцкую сыстэму кіраваньня, якая існуе ў Расеі? Дарэмна настойваць: *«Мне не хацелася б нічога казаць наконт гэтага»*.

Сьціпласьць сп. Шушкевіча выяўляецца і ў тым, якой ён бачыць ролю сваёй краіны ў міжнародным жыцьці: *«вядома, мы не вядзем гаворкі пра ўплыў на падзеі ў сьвеце. Але мы можам граць пэўную ролю, служачы ўзорам для іншых»*. Калі правільна зразумець — узорам разумных паводзінаў.

Заставалася яшчэ адно пытаньне, якое, безумоўна, не адважыліся б задаць у іншым мейсцы ці іншаму чалавеку: ці ягоная краіна, Беларусь, сапраўды існуе? У сваім адказе ён абапіраецца на Гісторыю і, вядома, на *«недасьведчанасьць, якую выяўляюць на Захадзе»*. Але разам з тым дадае: *«Пакуль што нашая незалежнасьць — чыста прынцыповая»*, але будзе заставацца такой *«чым далей, тым меней»*. І *«ўжо напрыканцы гэтага тысячагодзьдзя, я думаю, ніхто ня будзе сумнявацца, што Беларусь сапраўды існуе»*.

**Ян КРАЎЗЭ**

("Le Monde")

# У Эўропу: якім шляхам?

**Здаецца, мы ўжо здолелі пераканаць сябе ў сваёй эўрапейскасьці. Засталіся «дробязі»: пераканаць у гэтым Эўропу. І хаця зразумела, што нікуды Эўропа ад нас (як і мы ад яе) не схаваецца, аднак нам усё ж патрабуецца прайсьці шлях насустрач.**

Гэты шлях можа пралягаць праз Польшчу. Трохі большая падрыхтаванасьць палякаў да цывілізаванага жыцьця, памножаная на нязначнасьць моўнага бар'еру паміж намі, аб'ектыўна ўплываюць на беларусаў. І як бы не пярэчылі прыхільнікі антыпольска-антыкаталіцкіх настрояў, нам ня толькі жыць з Польшай у суседзтве, але й шмат чаго пераймаць. Іншая рэч, што нельга абіраць адзін толькі шлях, бо ў такім разе мы рызыкуем застацца закамплексаванымі.

Разумеючы гэта, Украіна актыўна кінулася ў Нямеччыну. Прычым пачатак быў эфэктны — сп. Краўчук, прыляцеўшы ў Бонн з візытам (афіцыйным — у адрозьненьне ад сп.Шушкевіча), адмовіўся ўспрымаць расейскую мову з вуснаў нямецкіх перакладчыкаў, а прапанаваў паслугі сваёй украінскамоўнай перакладчыцы, маладой і прыгожай жанчыны. Пасьпелі летась правесьці дні культуры Украіны ў Нямеччыне, й пампэзна пачаставаць нямецкіх мастакоў і актораў у Кіеве. Хаця й па старым сцэнары і з кепска прыхаванымі мэтамі, затое з імпэтам. А ўжо сёлета ў Кіеве адкрываецца Інстытут Гётэ, які будзе займацца папулярызацыяй у сьвеце нямецкае мовы й культуры. Украіна мае падставы спадзявацца на разуменьне немцаў, а значыць — на іхнія крэдыты, інвэстыцыі й тэхналёгіі.

Мы ж, тым часам, усё яшчэ жывем стэрэатыпамі. Напрыклад, з пафасам заяўляем, што пасьля Дуброўны (Грунвальда) вось столькі стагодзьдзяў нага ўзброенага немца не ступала на зямлю Беларусі. І гэта праўда. Але варта памятаць таксама, што ў тым жа сярэднявеччы мы вельмі шмат пераймалі ад немцаў у пляне тэхналягічным, што, дарэчы, адбілася й на нашай мове. Што ў 20-м стагодзьдзі былі ня толькі карныя экспэдыцыі, але й спрыяньне беларускаму школьніцтву ў часы першай сусьветнай вайны. Гэта вельмі спэцыяльная размова, але паступова высьвятляецца каласальная значнасьць нямецкага фактару ў гісторыі Беларусі. На жаль, сёньняшнія кіруючыя колы Рэспублікі гэтага ня ў стане асэнсаваць, у тым ліку й у футуралягічным сэньсе.

Амаль зусім мы ня згадваем яшчэ адзін шлях у Эўропу — скандынаўскі. І гэта тым больш актуальна, што на поўнач спрабуе арыентавацца Балтыя. Для Эстоніі ўсё досыць адназначна — у сфэры палітычнай і пабытовай размовы там ідуць практычна толькі пра Скандынавію. І як адзін з вынікаў — эстонскія мігранты ўжо праблема для Фінляндыі. Латвія крыху раздвойваецца — тут і традыцыйная швэдзка-дацкая арыентацыя, і пранямецкія сымпатыі, якія, здаецца, знаходзяць водгук — Фэдэратыўная Рэспубліка дала згоду на пераход лата ў сыстэму нямецкай маркі. У Летуве, дзе якраз вельмі шмат пішуць і гавораць пра вяртаньне ў Эўропу, за скандынаўскі шлях наўмысна агітуюць у якасьці супрацьвагі ўплыву Польшчы. Ва ўсялякім разе, ансамбль краінаў узьбярэжжа Балтыцкага мора актыўна фармуецца. З апошніх падзей — адкрыцьцё Дацкага інстытуту культуры ў Рызе з філіямі ў Таліне й Вільні.

Мы таксама завязаны на Балтыку, як і яна на нас. У тым ліку й таму, што ўся нашая атрута сплаўляецца па Дзьвіне й Нёмане ў гэтае мора.

Апрабіраваць скандынаўскі шлях нам нішто не перашкаджае, галоўнае — выказаць зацікаўленьне. Досьвед Балтыі сьведчыць, што мы можам разьлічваць на супрацоўніцтва ў гуманітарнай сфэры (напрыклад, падрыхтоўка спэцыялістаў), у спрыяньні разьвіцьцю нашага аграрнага сэктара, у пераабсталяваньні асобных галінаў прамысловасьці. Відавочна, што, напрыклад, швэдам куды цікавей дапамагаць занядбаным эўрапейскім рэгіёнам, якія ўжо паглынулі значную частку ін'екцый.

Дарэчы, цікавы факт. Доктар Міхась Ткачоў распавёў, што пасьля выданьня ягонай кніжкі «Замкі Беларусі» у рэспубліку прыйшоў ліст ад каралевы Швэцыі, якая была ўражана эстэтыкай нашай сьвятыні — царквы ў Сынковічах, здымак якой убачыла ў гэтай кніжцы, і прасіла даслаць ёй каляровыя слайды помніка. Момант зацікаўленьня і пазнаньня. Варта нагадаць таксама, што менавіта Швэцыя была першай краінай, якая без абгаворак і прыхаванасьці сэнсу ў тэксьце тэлеграмы прызнала незалежнасьць Беларусі.

Аднак цяперашняе наша кіраўніцтва настойліва арыентуецца выключна на Расею ды працягвае падпісваць зь ёю аб'ектыўна згубныя для нас пагадненьні аб адзінай «рублёвай зоне», бяспошлінным транзыце й г.д. Нават у міжнародным пляне Беларусь трымае бок Масквы. Часам даходзіць да абсурду. Напрыклад, на перамовах у Вене па асабовым складзе ўзброеных сілаў Расея прапаноўвае пералічыць ня ўсе свае войскі, а толькі выбарачна — нібы размова ідзе не пра войска, а пра сацыялягічнае апытаньне. Падтрымала гэты праект толькі Беларусь, стаўшы нават сааўтарам рабочага дакумэнту. Сумна.

Па эўрапейскіх маштабах Беларусь — зусім не малая, а сярэднеэўрапейская краіна, у два разы па насельніцтве большая за Данію, Нарвэгію, Фінляндыю, Швэйцарыю, большая за Аўстрыю, Бэльгію, Партугалію, Вэнгрыю, Швэцыю. У нас свае маштабы й свая вага, свае прыярытэты й арыентацыі. Вызначыцца (а не «апрадзяліцца»), тады ўжо можна будзе й арыентавацца ў гэтай самай Эўропе.

**Алег ДЗЯРНОВІЧ**

рашняму часу. Можа таму й варта было б напісаць новы гімн, але хто б мог гэта зрабіць, я ня ведаю... Сапраўды ня ведаю.

**ВАЛЯНЦІНА ТРЫГУБОВІЧ, супрацоўнік часопіса «Мастацтва»:**

— Я б хацела, каб гімнам быў «Магутны Божа». Ён усім сваім ладам найбольш адпавядае майму ўяўленьню пра дзяржаўны гімн. Але ў яго вельмі складаная мэлёдыя. Гімн Краўцова я вельмі шаную, але ў ім ёсьць шмат наіўнай рэвалюцыйнасьці 20-х гадоў. «Пагоня», на мой погляд, ня можа быць дзяржаўным гімнам, гэта хутчэй гімн для нейкае беларускае суполкі. А таму, магчыма, трэба пісаць новы. Але я хацела б бачыць яго такім велічным, як «Магутны Божа», аднак трошку прасьцейшым, каб яго здолеў сьпяваць кожны.

**МІХАІЛ АНІМПАДЗІСТАЎ, мастак:**

— Я б зараз абвясьціў мараторый на тыя рэчы, якія робяцца на вякі. Гэта — назовы вуліц, пляцаў, новыя помнікі, гімны. Бо я лічу, што творцы да гэтага маральна не падрыхтаваныя. На нейкі час можна карыстацца «Марсэльезай», бо гэта ж не рэвалюцыйны, а рэспубліканскі гімн. А паколькі нашая дзяржава — рэспубліка, гэта мае сэнс. Ну а з традыцыйных мне больш даспадобы «Не загаснуць зоркі ў небе» Купалы.

**АЛА СЯМЁНАВА, літаратурны крытык:**

— Тое, што гімн БССР павінен быць зьменены — гэта зразумела. Варта было б правесьці закрыты конкурс, каб у ім маглі прыняць удзел і Сокалаў-Воюш, і Барадулін, і Вярцінскі, і Дранько-Майсюк. Тэксты бяз прозьвішчаў — на разгляд камісіі, у якой — прадстаўнікі розных слаёў, каб рашэньне было найбольш аб'ектыўным. Як варыянт, можна было б скарыстаць «Пагоню» Багдановіча.

**ВІКТАР ЖУК, рэдактар беларуска-амэрыканскага часопіса «Дело»:**

— Мы прынялі новы герб, і таму, я лічу, трэба каб і гімн яму адпавядаў. Маю на ўвазе гімн слуцкіх паўстанцаў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». А калі прымаць новы, тады лепш за ўсё абвясьціць конкурс. І можа ня трэба разьлічваць на традыцыйную абойму паэтаў. Раптам хто зь невядомых, з маладых напіша лепш. Бо каб напісаць гімн, трэба душой адчуваць будучыню. А тое, што стары БССРаўскі гімн павінен быць зьменены — гэта бясспрэчна.

Вось і ўсе адказы. Я не бяруся рабіць высновы, бо ніводны варыянт відавочна не пераважае над астатнімі. Складанае пытаньне трэба вырашыць. А ад сябе магу дадаць толькі, што аддаю перавагу «Пагоні» Багдановіча. А наконт новага? Магчыма гэта й мае сэнс, але міжволі ўзгадваюцца словы Джона Толкіна: «Песьні — яны як дрэвы: пладаносяць па-свойму і ў свой час, а здараецца, што й заўчасна засыхаюць».

**Алесь АС**

*У рэдакцыю «Свабоды» працягваюць прыходзіць лісты з пытаньнямі пра беларускія грамадзкія ды культурныя арганізацыі ў розных рэгіёнах былога СССР ды іншых краінах. Падаем сьпіс арганізацыяў у Маскве, Казахстане, рэспубліцы Саха (Якуція). Будзем удзячныя ўсім, хто дашле нам яшчэ якія зьвесткі пра іншыя беларускія арганізацыі.*

***Кантактныя адрасы й тэлефоны беларускіх грамадзкіх ды культурных арганізацыяў і таварыстваў.***

### У МАСКВЕ:

Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны.
**101000 Расейская Фэдэрацыя, Масква, вул.Маросейка 17. Тэл. 921-28-85.**

Згуртаваньне беларускай моладзі ў Маскве «Пагоня».
**101600 Расейская Фэдэрацыя, Масква, вул. Б.Хмяльніцкага, д.17/2, для ЗБММ «Пагоня».**

Згуртаваньне беларускіх вайскоўцаў у Маскве.
**Тэл. 499-76-50, сп.Астапові́ч Васіль Мікалаевіч.**

Група падтрымкі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» г. Масквы.
**101000. Расейская Фэдэрацыя, Масква, вул.Маросейка 17. Тэл. 921-59-73, сп.Паўлоўскі Ігар Аляксандравіч.**

Маскоўскі аддзел нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.
**Тэл. 373-96-11, сп.Драянкоў Алесь Фёдаравіч.**

Маскоўскае аддзяленьне міжнароднага аб'яднаньня беларусістаў.
**Тэл. 258-96-10, сп.Каўка Аляксей Канстаньцінавіч.**

### У КАЗАХСТАНЕ:

Алма-Ацінскі культурны асяродак «Беларусь».
**480123 Казахстан, Алма-Ата-123, п/с 0. Тэл. 20-06-54. Адказны сакратар рады сп.Майсейчык Яўген Аляксеевіч.**

Асацыяцыя выпускнікоў землеўладкавальнага факультэта Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Казахстане (АВЗФ БСГА «Казахстан»).
**480035 Казахстан, Алма-Ата-35, п/с 77. Тэл. 21-84-07. Сп.Іваноў Яўген Паўлавіч.**

Згуртаваньне Беларусаў Казахстана «Бацькаўшчына».
**480123 Казахстан, Алма-Ата- 123, п/с О.**

Прыазерская гарадзкая рада Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны.
**478200 Казахстан, Джэзказганская вобласьць, г.Прыазерск, вул. Панфілава, д.3, кв.20. Старшыня рады сп.Суднік Станіслаў Вацлававіч. Тэл. 4-12-28.**

### У РЭСПУБЛІЦЫ САХА:

Беларускае таварыства г.Якуцка «Суродзіч».
**677007 Рэспубліка Саха, г.Якуцк, вул.Акцябрская, д.5, кв.7.**

Да Таварыстваў і Саюзаў земляробаў на Беларусі

Шаноўнае Спадарства!

З задавальненьнем інфармуем, што ў Польшчы й Чэха-Славаччыне заснаваныя бюро Земляробчага Форуму Цэнтральнай і Усходняй Эўропы.

Сардэчна запрашаем да супрацоўніцтва арганізацыі, таварыствы, прафэсійныя саюзы й прыватных асобаў, якія зацікаўлены ў дзейнасьці Земляробчага Форуму.

Просім дасылаць Вашыя адрасы й кароткую інфармацыю пра сфэры зацікаўленьня й дзейнасьці. Па магчымасьці прышліце, калі ласка, распрацоўкі й аналізы стану Вашага земляробства, а таксама пляны яго мадэрнізацыі.

У пэрспэктыве хацелі б прыехаць да Вас з колькідзённай місіяй і спаткацца зь дзеячамі й лідэрамі новых сялянскіх арганізацыяў.

Хацелі б зацікавіць Спадарства нашымі ідэямі й запрапанаваць супрацоўніцтва ў вабмене досьведам і інфармацыяй, што датычыць зьменаў у земляробчай гаспадарцы ды ініцыятываў, якія нараджаюцца ў вясковым асяродку.

У склад місіі ўвайшлі б прадстаўнікі Земляробчага Форуму з Варшавы й Прагі. Правілам зьяўляецца тое, каб у склад «агульнай місіі» ўваходзілі таксама прадстаўнікі мяйсцовых земляробаў, зарганізаваных у працэсе зьменаў у земляробстве ў сваёй краіне.

Ня маючы адрасоў земляробчых арганізацый у вашай краіне, просім аб пашырэньні інфармацыі, якая тычыцца Земляробчага Форуму, сярод аграрных дзеячоў, а таксама просім адказаць, ці можам разьлічваць на арганізаваньне нашага візыту.

Кошт побыту пакрыем з уласных сродкаў

**Са сьведчаньнем павагі**
Сакратар Форуму
**доктар інжынэр Яна ДОМБРОВСКА**
Дырэктар Форуму
**прафэсар, доктар Ежы МОРСТЫН**

*ROLNICZE FORUM EUROPY ŚRODKOWEJ I WSCHODNIEJ*
*00-930 Warszawa, ul. Wspólna 30, Pologne/Poland*
*(gmach Ministerstwa Rolnictwa, pok. 30/32)*
*tel. 623 15 53, fax 623 15 56.*



Кудзелка Тамара
**шукае**
**свайго родзіча**

**Марыніча**
**Васіля Мікітавіча**
**(альбо Савіцкага Васіля)**
**і яго нашчадкаў, які быў вывезены ў ліпені 1943 г. зь Беларусі ў Нямеччыну.**

Просьба да чытачоў на Захадзе пашырыць гэтую аб'яву.

Адрас для перапіскі:
**Беларусь, Менская вобласьць, г. Салігорск, вул.Акцябрская, д.31, кв.50. Кудзелка Тамара.**

# Расея адмаўляецца выконваць пагадненьне

**Паводле пагадненьня, падпісанага лідарамі СНД у Менску, усе мастацкія й гістарычныя рэліквіі, музэйныя каштоўнасьці, творы мастацтва павінны быць вернуты той былой саюзнай рэспубліцы, якая зьяўляецца «дзяржавай іхняга паходжаньня». Гэтае пагадненьне пакуль нідзе не друкавалася, маскоўская прэса называе яго «сакрэтным». Згодна з гэтым пагадненьнем, у кожнай зь дзяржаваў СНД мае быць створана спэцыяльная камісія, якая й вырашыць: што вяртаць; а калі вяртаць, дык у вабмен на што.**

**Карэспандэнт СВАБОДЫ зьвярнуўся па тлумачэньні ў Вярхоўны Савет Беларусі да намесьніка старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны дэпутата Алега ТРУСАВА.**

— Я ведаю пра гэтае пагадненьне, — сказаў спадар Трусаў. — Яно сапраўды нідзе не друкавалася, але наўрад ці на ім стаіць нейкі грыф сакрэтнасьці. Я знаёміўся з гэтым дакумэнтам у першым праекце, таму што ініцыятарам пагадненьня была Рэспубліка Беларусь. Пагадненьне падпісалі ўсе кіраўнікі дзяржаваў СНД, у тым ліку й Ельцын.

Гаворка ідзе пра тое, працягвае дэпутат Трусаў, каб вярнуць нашы культурныя каштоўнасьці з былых саюзных музэяў, бібліятэк, архіваў і г.д. Аднак паколькі гэтыя музэі знаходзяцца пераважна на тэрыторыі Расеі, то падняўся лямант у расейскім Вярхоўным Савеце. На спэцыяльным паседжаньні парляманту было прынятае рашэньне замарозіць гэтае пагадненьне, «пакуль ва ўсім не разьбярэцца кампэтэнтная камісія». Камісію ўзначаліў акадэмік Ліхачоў, які, на маю думку, будзе шукаць юрыдычныя закавыкі, каб навогул пахаваць гэты дакумэнт. Дарэчы, адразу пасьля падпісаньня пагадненьня Украіна афіцыйна зьвярнулася да міністэрства культуры Расеі з просьбаю вярнуць у Кіеў клейноты Запарожскай Сечы, якія знаходзяцца зараз у Краснадарскім музэі. Масква адмовіла.

Але, наколькі мне вядома, краінам Балтыі Расея нібыта пагаджаецца вярнуць іхнія каштоўнасьці, на гэты конт, па маіх звестках, яны падпісалі нейкае пагадненьне. І, напрыклад, у Публічную бібліятэку ў Петэрбурзе ўжо заявіліся летувісы і хочуць пад шумок вывезьці ўсё, што датычыць спадчыны Вялікага княства Літоўскага. Калі мы не парупімся, дык Літоўская мэтрыка можа з Расеі трапіць у Летуву, мінуўшы Беларусь. Наша камісія зьвярнулася да Шушкевіча і Кебіча, каб яны на афіцыйным узроўні таксама прымалі адпаведныя захады.

А навогул, вяртаньне каштоўнасьцяў нават у цывілізаваным сьвеце — рэч вельмі няпростая. Вэнгры, напрыклад, сваю карону выдзіралі з Амэрыкі дваццаць гадоў. Мы дакладна ведаем, колькі нашых каштоўнасьцяў у Эрмітажы, што ёсьць у Маскве... Я спадзяюся, што пасьля доўгага гандлю сёе-тое нам удасца вярнуць.

**І.Г.**

**P.S. Калі гэты матар'ял быў падрыхтаваны да друку, нам удалося здабыць копію «Пагадненьня аб вяртаньні культурных і гістарычных каштоўнасьцяў дзяржавам іхняга паходжаньня».**

**пагадненьне**

Дзяржавы — удзельніцы Садружнасьці, усьведамляючы значэньне, якое надаюць краіны паходжаньня вяртаньню культурных каштоўнасьцяў, што прадстаўляюць неад'емную частку іх духоўнай, культурнай і гістарычнай спадчыны,

Прымаючы да ўвагі палажэньні рэзалюцый Генэральнай Асамблеі ААН аб вяртаньні або рэстытуцыі культурных каштоўнасьцяў краінам іхняга паходжаньня, а таксама Канвэнцыі аб мерах па забароне і папярэджаньні ўвозу, вывазу і перадачы права ўласнасьці на культурныя каштоўнасьці ад 14 лістапада 1970 года,

Пацьвярджаючы, што вяртаньне народам іх твораў мастацтва, помнікаў, музэйных экспанатаў, архіваў, рукапісаў дакумэнтаў ды іншых рарытэтаў культуры і гісторыі будзе служыць высакароднай задачы адраджэньня нацыянальных культур, захаваньня і далейшага разьвіцьця ўсеагульных культурных каштоўнасьцяў і садзейнічаць умацаваньню садружнасьці паміж незалежнымі дзяржавамі,

Пагадзіліся аб наступным:

**Артыкул 1**

Дзяржавы-ўдзельніцы будуць садзейнічаць вяртаньню культурных і гістарычных каштоўнасьцяў краінам іхняга паходжаньня.

**Артыкул 2**

Дзяржавы-ўдзельніцы заснуюць на парытэтных пачатках Міжурадавую камісію для стварэньня мэханізму і практычнай работы па вяртаньні культурных і гістарычных каштоўнасьцяў дзяржавам—удзельніцам Садружнасьці, вызначэньня катэгорый культурных і гістарычных каштоўнасьцяў, што падлягаюць вяртаньню.

**Артыкул 3**

Дзяржавы-ўдзельніцы заснуюць нацыянальныя камісіі па складаньні сыстэматычных вопісаў культурных і гістарычных каштоўнасьцяў, што знаходзяцца як на тэрыторыі адпаведнай дзяржавы, так і ў іншых дзяржавах — удзельніцах Садружнасьці.

**Артыкул 4**

Дзяржавы-ўдзельніцы прадставяць магчымасьць экспэртам нацыянальных камісій пазнаёміцца з фондамі дзяржаўных музэяў, бібліятэк і архіваў адно аднога.

**Артыкул 5**

Дзяржавы-ўдзельніцы будуць забясьпечваць належнае захаваньне культурнай спадчыны нацыянальных меншасьцяў і народаў іншых дзяржаваў — удзельніц Садружнасьці, што знаходзіцца на іх тэрыторыі, уключна з гістарычнымі, рэлігійнымі і культурнымі помнікамі ў тым выглядзе, у якім яны йснуюць ў цяперашні час.

**Артыкул 6**

Дзяржавы-ўдзельніцы будуць садзейнічаць пашырэньню ўзаемных ведаў аб іх адпаведных культурах. Яны будуць заахвочваць таксама супрацоўніцтва і абмены ўва ўсіх галінах культуры і творчай дзейнасьці.

**Артыкул 7**

Пагадненьне набывае сілу з моманту яго падпісаньня. Арыгінал пагадненьня здаецца на захаваньне Ураду Рэспублікі Беларусь, які будзе яго дэпазытарыем.

Зроблена ў Менску 14 лютага 1992 года ў вадным асобніку на дзяржаўных мовах дзяржаваў-удзельніц, прычым усе тэксты маюць аднолькавую форму.

**(Падпісана прадстаўнікамі 11-ці дзяржаваў СНД)**

# Імпрэза з пачастункам

**12 сакавіка гісторыка-культурны клюб «Паходня» (Горадня) адзначыў шостую гадавіну сваёй дзейнасьці.**

З гэтай нагоды ў клюбе была наладжана імпрэза з гарэлкай і добрай закускай. Былы старшыня «Паходні» доктар гісторыі Міхась Ткачоў ня меў часу прыехаць зь Менску да сваіх гарадзенскіх сяброў, але даслаў прывітальнае слова, за якое ўсе ахвотна выпілі.

**С.А.**

# На чарзе — пытаньне пра маёмасьць

**5-га сакавіка, на дзень патрона Беларусі сьв.Казімера менскім гарвыканкамам зарэгістраваная «дзесятка» беларускай рыма-каталіцкай парафіі пры касьцеле сьв.Тройцы на Залатой Горцы.**

Натуральна, што наступным пытаньнем паўстае права ўласнасьці на будынак касьцёла, які цяпер знаходзіцца на балянсе філярмоніі і выкарыстоўваецца пераважна як канцэртная арганная заля.

Пры дапамозе Беларускай Каталіцкай Грамады знойдзеныя архіўныя дакумэнты і фотаздымкі вонкавай і ўнутранай аздобы касьцёла, а таксама зямельныя вопісы, якія сьведчаць пра тое, што, апроч касьцельнага пляца і будынку касьцёла, парафіі сьв.Тройцы належалі 4 забудаваныя пляцы ў горадзе, а таксама вёска Масюкоўшчына.

**А.Б.ы**

*Здымак Анатоля Клешчука*

# Фонд канцлера

**У Горадні ў Новым каралеўскім замку адбылася навуковая імпрэза, прысьвечаная канцлеру Вялікага Княства Літоўскага Яўхіму Літавору Храптовічу (1729 — 1812).**

Апроч іншых добрых справаў гэты чалавек вядомы тым, што сабраў вялікі кнігазбор з 20 тыс. тамоў. Лёс бібліятэкі наступны. У 1914 годзе перад надыходам немцаў 4,5 тысячы польскамоўных кніг зь мястэчка Шчорсы (Наваградчына) былі вывезеныя ў Кіеў, дзе й дагэтуль захоўваюцца ў Акадэмічнай бібліятэцы. Вялікая частка кніг на іншых мовах, а таксама збор рукапісаў, тысячы гравюраў, старыя мапы і збор каштоўных карцін былі вывезеныя ў Маскву. Пазьней шмат што з гэтага апынулася ў бібліятэцы Салтыкова-Шчадрына ў Петэрбургу, а многае зьнікла. Нічога з гэтых нацыянальных каштоўнасьцяў нашыя суседзі нам не вярнулі дагэтуль. Праўда, беларусы раней асабліва не настойвалі. Аднак апошнім часам захады такія робяцца. І ўсё адно спадзявацца на вяртаньне збору асабліва не даводзіцца.

Адначасова з гэтым нібыта быў адноўлены й фонд Храптовіча, аснову якога складуць 20 тысяч тамоў аддзела рэдкай кнігі абласной бібліятэкі, які разьмешчаны ў Новым замку. Аднак бяз кніжак бібліятэкі Храптовіча назва фонда выглядае фармальнай. Сёньня беларускія навукоўцы разьлічваюць самае большае на тое, каб стварыць падрабязны вопіс шчорсаўскіх збораў, якія цяперашнімі ўладальнікамі дагэтуль дакладна не апісаны.

Што да сядзібы Храптовіча ў Шчорсах, збудаванай паводле праекта архітэктара Джаваньні Сакка, дык сёе-тое ад яе захавалася, хоць і ў кепскім стане. Неўзабаве будзе скончаны праект аднаўленьня сядзібы. Але спэцыялісты скэптычна ставяцца да стварэньня там музэя й бібліятэкі, бо побач сядзібы — радыяцыйная пляма (1,5 кю/км.кв.). Таму наўрад ці захочуць турысты, асабліва замежныя, прыехаць сюды, каб паслухаць апавяд пра тое, як тут калісьці працавалі Міцкевіч, Чачот, Сыракомля...

Гісторыкі маюць іншую прапанову, а менавіта — стварыць музэй альбо бібліятэку ў гарадзенскім палацы Яўхіма Храптовіча на вуліцы Замкавай 16, які выдатна захаваўся і нават нядаўна звонку быў адрэстаўраваны.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**пошта**

# Адзіны прыхільнік?

У першым «б» 42-й школы Гомеля адбыўся бацькоўскі сход. Ішоў сход, як заўсёды, памяркоўна й пасіўна. А ў самым канцы сходу настаўніца паведаміла аб пераходзе з новага навучальнага года на беларускую мову навучаньня...

Што тут пачалося! Разьюшаныя бацькі накінуліся на настаўніцу ледзьве не з кухталямі... Аргумэнты былі ўсё тыя ж: няма падручнікаў, няма настаўнікаў і «вабшчэ дзецішкам будіт очань трудна».

Толькі адна спадарыня спакойна выступіла ў падтрымку настаўніцы: «Ня трэба так хвалявацца. Я сама скончыла беларускую школу. У вёсцы. Самым цяжкім прадметам для мяне была расейская мова. Нават уступныя экзамены ў тэхнічны інстытут здавала па-беларуску. І нічога! Скончыла інстытут ня горш за іншых».

«Зьехалі ад адных нацыяналістаў, а трапілі да другіх, — абураўся адзін з бацькоў, нядаўні «бежанец» з Прыбалтыкі, які чамусьці не даехаў да сваёй радзімы-матухны — Расеі. — Скажы нам хоць якое «предложение» па-беларуску! Сама ня ведаеш!"

«Я магу сказаць вам ня толькі па-беларуску, але і па-польску і нават па-нямецку, — сумна паглядзеўшы на «бежанца» і тутэйшых, адказала кабета. — Хіба справа ў гэтым? Проста трэба працаваць і мець на плячах галаву, а ня жбан".

Усё гэта я пераказаў амаль даслоўна.

Справа ў тым, што гэта быў ужо другі сход, дзе закраналася тэма беларускай мовы. Першы адбыўся напрыканцы жніўня, калі дырэктар школы прапанавала стварыць беларускі кляс. Тады яе падтрымалі «ажно» пяць чалавек. А цяпер — толькі адзін.

Пакуль нашыя вучоныя дзяды й шаноўныя дэпутаты спрачаюцца і марудзяць з пошукам сродкаў, паперы і іншых патрэбных рэчаў для выданьня падручнікаў, дапаможнікаў, доплаты беларускамоўным настаўнікам, розныя «бежанцы» разам зь мясцовым начальствам і тутэйшымі «культурнымі» людзьмі робяць сваю чорную справу, працягваючы асыміляцыю беларусаў і ведучы да далейшага заняпаду і нашу мову (цяпер ужо дзяржаўную) і культуру.

І бадай, самае сумнае ў гэтай гісторыі тое, што разам з бацькамі на сходзе прысутнічалі дзеці. Кожны зь іх уважліва сачыў за сваімі мамамі й татамі, з жахам ўяўляючы, як яны будуць вучыцца на гэтай «жудаснай» беларускай мове.

Калі гэтая кабета (мая жонка) распавядала аб дыскусіі, прытуляючы да сябе дачушку, ні ў кога з нас не было ўпэўненасьці, што гэтая справа скончылася.

**Юры МАКАРАНКА**

